**Міхась СЛІВА**




**Сёння** з раніцы ў Яўгена было шмат спраў. Патрабавалася вырашыць «папяровыя» пытанні ў некалькіх арганізацыях, а тут яшчэ жонка нагадала:

– Глядзі ж, не забудзь пра торцік, ды нідзе не затрымлівайся!

– Добра, – адказаў Яўген і ўздыхнуў: вечарам давядзецца ехаць у другі канец горада, каб віншаваць цешчу з днём нараджэння...

Каб не забыць пра пакупку і не трапіць у няміласць да жонкі, ён рашыў адразу купіць торт, а потым заняцца сваімі пытаннямі. Тым больш, што крама была па дарозе.

І вось з вялікім тортам (не паскупіўся для дарагой цешчы!) Яўген паімчаў па інстанцыях. Зайшоў у адзін з кабінетаў, а там дзве дзяўчыны працуюць. Убачыўшы ў руках у Яўгена торт, пераглянуліся, усміхнуліся і ў імгненне вока выдалі яму патрэбную даведку. Радасны Яўген горача падзякаваў, паклаў паперку ў кішэню, схапіў свой торт і пабег далей...

У наступнай арганізацыі яго сустрэла мілавідная жанчына сярэдняга веку. Яна здзіўлена паглядзела на торт, хацела нешта сказаць, а потым, відаць, перадумала, бо адвяла вочы ўбок і махнула рукой. Яўген выклаў ёй сваю просьбу. Жанчына хуценька зрабіла неабходныя запісы і патлумачыла, што трэба яшчэ зайсці ў суседні кабінет, там усё ўзгадніць і паставіць пячатку.

У другім пакоі, куды зайшоў Яўген, за сталамі сядзелі некалькі чалавек. Свабоднага крэсла не было, таму свой торт ён паставіў на край аднаго са сталоў, аддаў паперы, каб паставілі пячатку, і пачаў расказваць пра свае клопаты. Справа, па якой ён звярнуўся, была складаная. Тым не менш, вырашылі яе тут хутка і ветліва. Шчаслівы Яўген схапіў паперы і паімчаў дадому.

...Толькі калі прайшоў два аўтобусныя прыпынкі, спахапіўся: забыў торт на стале! Кінуўся назад... Адчыніў дзверы пакоя – і разгубіўся: работнікі канторы, весела перамаўляючыся, дружна елі яго торт!

Яўген ціхенька зачыніў дзверы і ўсміхнуўся: дык вось чаму сёння яму так шанцавала!..

*г. Рагачоў.*




У адзінокай хаты і плот адзінокі.

Крывы мост лепш за багну.

Шукай вінаватага ў люстэрку.

Малы падман, а доўга гукае.

Дзяцел стукае, а глушэц слухае.

Каго абрадуеш, калі не ляціш і не падаеш?

Акно невялікае, а неба ўмяшчае.

У кожнае імгненне сучаснасць становіцца мінулым.

Аптымісту і ў моры няма гора, песімісту і на пярыне бяда.

Куды вецер, туды і Пеця.

Малы парасон, а неба закрыў.

Ты знайшоў залатое яйка? Адшукай залатую курыцу!

Не шукай па́ры ў піўным бары.

Шчодрая змяя на яд.

Ці шмат радасці ад пахвалы дурня?

Пазыч час у лайдака.

Грошы злічыш, а клопаты – ніколі.

Калі радавы ўдалы, то і маршал герой.

Вучыся ў ракі: яна радзей выходзіць з берагоў, чым ты з сябе.

Скочыў у студню, каб неба пабачыць.

У сенакос кветак не лічаць.

Спрэчку з дурнем ты прайграў яшчэ да пачатку спрэчкі.

Ёсць дно і ў глыбокай студні.

**Барыс БЕЛЕЖЭНКА,**
*г. Віцебск.*




Малюнак Алега ГУЦОЛА.

**Васіль ТКАЧОЎ**




У брыгадзе быў усяго адзін барадаты мужчына — Цярэнчык. І барада ягоная чамусьці ўвесь час калола вочы сябрукам-будаўнікам.

— Прадай бараду, Аляксей, — аднойчы сказаў нехта з іх.

Той вылупіў вочы:

— Каму... прадаць? І... навошта?

— Нам, брыгадзе, прадай. Хай будзе...

Хлопцы, нібы згаварыўшыся, загулі: прадавай бараду, Цярэнчык, і не аднеквайся!

— Добра, угаварылі, — пагадзіўся ўрэшце той. — Грошы ў шапку: прадам за сто тысяч!..

Назаўтра Цярэнчык прыйшоў на працу... з барадой.

— Не магу без барады, — сказаў прыглушаным голасам і паклаў на стол грошы. — Забірайце...

Аднак забіраць грошы назад хлопцы не спяшаліся, пачалі сарамаціць Цярэнчыка:

— Эх, ты! Вось, аказваецца, якое тваё слова!..

— А яшчэ ў грудзі сябе ляпаў!..

— І з кім працуем, хлопцы?! З балбатуном!

Цярэнчык нехаця зграб грошы са стала... Назаўтра ён прытупаў на працу без барады.

...Праз два месяцы барада зноў адрасла.

— За сто не аддам! Цэны вунь як растуць! Плаціце ўдвая больш! — упёрся Цярэнчык, калі хлопцы пачалі зноў падступацца да яго.

Сябрукі абурыліся:

— Колькі плаціць?

— Ды за такія грошы я сам сабе адгадую!..

— Хлопцы, дык ён жа спекулянт! Бізнес тут надумаў рабіць!

Мужчыны злосна плюнулі і разышліся. На гэты раз бараду Цярэнчык выратаваў...

*г. Гомель.*




Малюнак Алега ПАПОВА.

## Анекдот

Жанчына ў доктара:

— Ой, доктар, мне так страшна! Не ведаю нават, што горш: зуб вырваць або дзіця нарадзіць?

— Хутчэй вырашайце, дарагая, мне трэба ведаць, за што брацца!



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

## ЯБЛЫК



Яблык ад яблыні блізка ўпадзе —
Янка да Ядзі штовечар ідзе.
Мае Ядвіся і прымхі, і гонар:
Людзі прарочаць, што Янку прагоніць.
Той пасміхнецца: «На кожную Ядзю
Можна, як хочаш, знайсці супрацьяддзе!»
Яблык вялікі, сакоўны, духмяны
Ён кожны вечар прыносіць каханай.
Гожы — і смаку яго не забудзеш!
Баюць бабулькі: «О, нешта тут будзе!..»

*г. Жабінка.*

## Затрыманая карыда

***Шклоўскі раён.*** Што такое карыда, ведае амаль кожны. Дзіўнае відовішча не адзін раз апісалі ў кнігах, прадэманстравалі ў фільмах, паказалі па тэлевізары, але гэта ўсё роўна не можа параўнацца з сапраўдным супрацьстаяннем чалавека і быка.

«Але дзе гэта Іспанія! Трэба ў сябе на радзіме зрабіць нешта падобнае!» — падумаў адзін расійскі прадпрымальнік і вырашыў, што для гэтага відовішча падыдзе менавіта буйная рагатая жывёла з Беларусі. Загрузіў у машыну 26 будучых «удзельнікаў карыды» на агульную суму больш як 200 мільёнаў рублёў і накіраваў іх у Расію. Вось толькі зусім забыўся, што на такі груз неабходны спецыяльныя суправаджальныя дакументы.

У выніку буйную рагатую жывёлу затрымалі і на час следства перадалі на захоўванне ў ААТ «Шклоўскі райаграсервіс». З правядзеннем карыды давядзецца пачакаць.

## Штраф за вітаміны

***Мінск.*** Лета — час, калі неабходна назапасіць у сваім арганізме вітамінаў на ўвесь год. І чым раней пачнеш гэта рабіць, тым лепш. Да таго ж, як прыемна адчуць смак першых клубніц, чарэшні ці абрыкосаў! Часам за гэта можна аддаць любыя грошы.

І знаходзяцца асобныя гандляры, якія за садавіну і агародніну на розных базарах ускручваюць неверагодную цану. Прычым вельмі часта на такія прадукты нават няма неабходных дакументаў, якія б пацвярджалі іх паходжанне і якасць. Так, на тэрыторыі ААТ «ГД Ждановічы» гэтыя гандляры набываюць, напрыклад, чарэшню за 20 тысяч рублёў за кілаграм, а прадаюць потым за 100, 200 ці амаль 300 тысяч.

Зараз такім правапарушальнікам пагражае штраф і канфіскацыя прадукцыі. А пакуль, відаць, лепш дачакацца таго часу, калі ў агародах, садах і лясах з'явяцца нашы «вітаміны», смачныя і даступныя.




## А ад «Лісы» не ўцяклі…

***Магілёў.*** Усе ведаюць казку пра Калабка, які ад бабулі збег, і ад дзядулі, і ад Зайца, Ваўка і Мядзведзя. Толькі ад Лісы яму не атрымалася ўцячы.

Вось і мясцовае будаўнічае прадпрыемства пазбягала выплаты падаткаў на працягу 2010 — 2012 гадоў. Але гэта доўжылася да той пары, пакуль арганізацыя не сустрэла сваю «Лісу» — супрацоўнікаў падатковых органаў з праверкай. Яны падлічылі, што дзяржава недаатрымала ад прадпрыемства не казачных, а самых рэальных амаль 550 мільёнаў рублёў падаткаў. Гэтыя грошы арганізацыя вярнула, ды яшчэ і штраф у памеры амаль 25 мільёнаў рублёў заплаціла.

Ад такой «Лісы» нікуды не схаваешся...

***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь і інфармацыйнага агенцтва БелТА.***




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.



Малюнак Алега ПАПОВА.

# ПЯЦЬ САФІЙ І ЧАТЫРЫ АРЦЁМЫ



## *Ліст у рэдакцыю*

*Як карабель назавеш, так ён і паплыве.*
З мультфільма «Прыгоды капітана Врунгеля».

Добры дзень. Мяне завуць Натан Аляксандравіч. Я вучоны. Займаюся антрапанімікай — навукай, якая вывучае імёны людзей, прозвішчы, імя па бацьку, псеўданімы. Галоўнай спецыфікай маёй дзейнасці з'яўляецца вывучэнне ўплыву імя на лёс дзіцяці. Таксама я (ужо больш для сябе) цікаўлюся тым, якімі імёнамі называюць дзяцей у апошні час у нас.

*У Амерыцы ў 80-х гадах XX стагоддзя шасцёра разнаполых дзяцей у адной з сем'яў былі названы адным і тым жа імем: Юджын Джэром Дюпуа.*

*Аднымі з самых няўдалых імёнаў у гісторыі былі Агонія, Рэцэптура і Фармакапея (Гоня, Рэца і Капа). Так сваіх дзяцей назваў адзін аптэкар з украінскага Мелітопаля. Дзяўчаты так і не даведаліся, што такое замужжа.*

*У Кнізе рэкордаў Гінэса запісана, што самае доўгае ў свеце імя складаецца з 1478 літар. Каб яго прачытаць, патрабуецца не менш як дзесяць хвілін.*

Пачну з таго, што зараз у шэрагу краін дзейнічаюць эксперты па імёнах. Агульная назва гэтай плыні — бэбі-брэндынг. Спецыялісты падбіраюць найбольш падыходзячае імя для дзіцяці, кіруючыся прынцыпам «імя павінна вылучаць яго з натоўпу і пры гэтым выклікаць пазітыўныя асацыяцыі». На мой погляд, вельмі нядрэнная ідэя, бо імя павінна не проста падабацца бацькам: яны павінны ўлічваць, як яно будзе спалучацца з прозвішчам і імем па бацьку. Напрыклад, нарадзілася дзяўчынка ў сям'і Івана Іванова. А бацькам вельмі падабалася імя Катарына. Вось і атрымліваецца, што дзіця будзе Іванова Катарына Іванаўна. Незвычайнае спалучэнне, ці не праўда?

*Самае папулярнае ў свеце жаночае імя — Ганна. Яго носяць амаль 100 мільёнаў жанчын.*

Іншы аспект, на які я б хацеў звярнуць увагу — гэта так званыя «бумы» на імёны. Некалькі дзесяцігоддзяў таму імёны Вера, Надзея, Любоў, Аляксандр, Уладзімір былі вельмі папулярныя, а цяпер яны рэдка выкарыстоўваюцца. Цяпер прыйшоў час Арцёмаў, Мікіт, Данілаў, Максімаў, Марый, Анастасій, Сафій, Ульян. Я нічога супраць гэтых імёнаў не маю, але бацькам не варта гнацца за папулярнасцю. Вось уявіце: пойдзе ваша дзіця ў школу, а там у класе пяць Сафій і чатыры Арцёмы. Дзяўчынку ці хлопчыка давядзецца называць альбо па прозвішчы, альбо даваць нейкі парадкавы нумар.

*У Швецыі жыве больш за 300 тысяч чалавек па прозвішчы Карлсан.*

Некаторыя ж бацькі імкнуцца ўсімі спосабамі вылучыць сваю дачку або сына з самага нараджэння. Ужо не першы год набіраюць папулярнасць стараславянскія імёны Арцемій, Забава, Святазар, Спірыдон, Глафіра, Аксіння і іншыя. Таксама актыўна выкарыстоўваюцца замежныя імёны — напрыклад, Олівер, Джэсіка, Рональд. Дастаткова часта, называючы дзяўчынак, эксперыментуюць з мужчынскімі імёнамі — Багдана, Міраслава, Васіліна, Дабрамі-

*Аднымі з самых незвычайных імёнаў, якія з'явіліся пасля рэвалюцыі 1917 года, былі Лагшмівар (Лагер Шміта ў Арктыцы), Цас (Цэнтральны аптэчны склад), Персастрат (Першы савецкі стратастат), Кукуцапаль (Кукуруза — царыца палёў), Тролебузіна (Троцкі, Ленін, Бухарын, Зіноўеў).*

ра. Сустракаюцца нават зусім неўласцівыя нашай краіне падвойныя імёны Арцём-Антоній, Эвеліна-Аліфціна, Эдж-Меліса.

*Сям'я Джэксанаў з горада Чыкага заклеймавала сваіх пяцярых дзетак, назваўшы іх: Менінгіт, Ларынгіт, Апендыцыт, Перытаніт, Танзіліт.*

Але гэта што! Прыведзеныя вышэй імёны можна лічыць штодзённымі і шэрымі. Бо сёння сярод заходніх зорак шырока распаўсюдзілася мода называць сваіх дзяцей вельмі незвычайна. Так, акцёр Джон Траволта назваў свайго сына Jet (у перакладзе – Знішчальнік), кінаактрыса Гвінет Пэлтроў дала сваёй дачце імя Apple (Яблык), футбаліст Дэвід Бэкхэм ахрысціў аднаго з сыноў Бруклін – у гонар раёна Нью-Ёрка, а рок-музыкант Фрэнк Запа назваў сваю дачку Moon Unit, што азначае Месячны Спадарожнік.

*У вёсцы Кандхмала, што знаходзіцца ў Індыі, ёсць хлопец з імем Я люблю бульбу.*

На заканчэнне хачу сказаць, што, даючы дзіцяці імя, вы шмат у чым вызначаеце яго лёс. Трэба і прыслухацца да меркаванняў сваякоў, і «прымерыць» яго на сябе, і «паглядзець» на яго з боку. Каб, пасталеўшы, ваша дзіця не даймала вас пытаннямі: «Чаму вы назвалі мяне менавіта так?», «Я хачу памяняць імя!», «Я не хачу быць Марынай, хачу быць Светай!».

Але як бы дзіця не звалі, яго імя будзе самым найлепшым, самым пяшчотным і шчаслівым для бацькоў.

Поспехаў вам у нялёгкай справе антрапанімікі.






Малюнкі Алега КАРПОВІЧА.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Смешкі, жарты, анекдоты — лепшы сродак ад самоты!

Калісь кахалі хлопцы нас, але ўсяму, як кажуць, час...

Языком менш мялі, бо займееш мазалі.

Хоць ты кароль ці каралева, але чамусьці цягне «ўлева».

У сям'і без сваркі, як на небе без хмаркі.

Дачнік без рыдлёўкі, як паляўнічы без дубальтоўкі.

Хто смак кахання разумее, той дагадзіць жанчыне ўмее.

Сёння гандаль без рэкламы, як дзіця без роднай мамы. А таксама і без таты. Балбатні — ой як багата!

Кожны Іван у сваёй хаце пан.

Каб не гэтыя дзяўчаты, не было б і грошай траты.

На дармавы суседскі мёд не разяўляй ніколі рот.

Каханне ўсіх нас дапякае. Бяда, калі яно знікае.

Хто на цэлы свет злуецца, той апошнім не смяецца.

Спявай, браток, свае «хвалебны» тады, калі яны патрэбны.

Маўчы, дзе трэба прыпыніцца. Маўчанне — золата паліца.

Не падманвай аніколі — і так маны ў жыцці даволі.

Не пілося і не елася, дзеўцы замуж захацелася.

Што ні збрэша — усё ўпапад, як сапраўдны дыпламат.

Трывай усе іспыты лёсу, штурмуй ухабы, перакосы!

**Даслала Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*




# Мініяцюры



**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## Адамавы яблыкі...

Кахала жонка так аддана,
Як Ева некалі Адама.
Ды яблык мужу не давала —
Самой было заўсёды мала.

*г. Барысаў.*

**Уладзімір ШПАДАРУК**

## Апошні тост



Ён быў жаданым сваяком
І на вяселлі піў уволю.
Ды свой апошні тост Мікола
Ужо прамовіў пад сталом.

*г. Рагачоў.*



**Мікола ТОНКАВІЧ**

## Матулі-зязюлі

Росцяць маці сваіх дзетак,
Як анёлаў паміж кветак.
Ды бываюць жа матулі
Горш, чым шэрыя зязюлі.

*г. Мінск.*




Малюнак Алега ПАПОВА.

**Міхаіл УЛАСЕНКА**

# ЗБІТЫЯ ІСЦІНЫ

• Кнігу і душу часта не адкрывай: будуць выглядаць патрыманымі.

• Каб хаваць думкі, трэба штосьці гаварыць.

• Махлярства ўдасканальваецца на практыцы.



• Шлюб – адзінае выйсце для аблудных у лабірынтах кахання.

• Камерцыялізацыя медыцыны страшнейшая за вайну: гінуць бяззбройныя.

• У іншага гаспадара ў двары – ні бэ, ні мэ, ні кукарэку.

• Хтосьці часта бывае пад градусам, а хтосьці – пад абцасам.

• Зайздрасць да спячага толькі ўзмацняе бяссонніцу.

• Надвор'е наладзілася, а сіноптыкі ўсё яшчэ капрызяць.



• Даярку Сцяпурыну, якая ішла з фермы, затрымаў старшыня, бо яна несла ахінею.

• Гісторыкі скажаюць мінулае, прарокі – будучыню, а журналісты – сучаснасць.

• Калі на ржышчы шмат варон, значыць, нямала іх і ў канторы.

*г. Горкі.*










Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэмы Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



**Народныя таленты**



## Тамара РАДАВАНАВІЧ:

### *«Пра яшчара ў модных чаравіках, рыб з какетлівым банцікам, іншапланецян з гарбузамі і катоў…»*

Мне здаецца, любая жанчына адрэагуе на прапанову напісаць сваю аўтабіяграфію прыблізна так, як Шцірліц на пытанне Мюлера: «А Вы – рускі?» – «Рускі-рускі, але навошта пра гэта?» У перакладзе з жаночага: як напісаць, каб схаваць узрост? Як ні пішы, гадоў не паменее, таму адкіну ўбок няёмкасць і пастараюся атрымаць асалоду, успамінаючы мінулае.

Я – карэнная і закаранелая сялянка, нарадзілася і амаль усё жыццё правяла ў вёсцы Ілья Вілейскага раёна Мінскай вобласці. Вучылася ў Ільянскай сярэдняй школе, скончыла там «абстрыжаных» адзінаццаць класаў: сапраўдных дзесяць, бо з 6-га класа нас, як сноп на вілах, перакінулі адразу ў 8-ы (вось і «пракалолася» Радаванавіч-Шцірліц пра свой узрост: па гэтых лічбах яго лёгка вылічыць). Вучыцца мне было няцяжка, асабліва лёгка даваліся беларуская і руская мова і літаратура. Магчыма, таму мне ў галаву прыйшла ідэя паступаць у БДУ на... біялагічны факультэт. Што зробіш: жаночая логіка!

Пяць гадоў вучобы праляцелі хутка. Настала пара зарабляць грошыкі. Родны Вілейскі раён у бядзе маладога спецыяліста-біёлага не пакінуў і забяспечыў мяне працоўным месцам... настаўніцы англійскай мовы. Папрацаваўшы год і пагубляўшы ўсю славянскую лексіку, я вырашыла вярнуцца ў Ілью. Там мне прапанавалі выкладаць у сельгастэхнікуме хімію, а таксама абрыдлую англійскую і... нямецкую мовы.

Ну, добра, кваліфікацыю выкладчыка хіміі я атрымала пасля заканчэння БДУ, з «інглішам» быў прэцэдэнт, але пры чым тут «дойч»? Дырэктар даступна патлумачыў мне, дурненькай: «А твая мама выкладала нямецкую!» Мае аргументы аб маміным дыпломе, атрыманым ёй у інстытуце замежных моў, і адсутнасці такога дакумента ў яе дачкі ніякага эфекту не мелі...

Праўда, потым начальнік усё-ткі пашкадаваў мяне і накіраваў на курсы. Тыя курсы прызначаліся для падрыхтоўкі выкладчыкаў нямецкай мовы да экзамена на вышэйшую катэгорыю. Маё з'яўленне выклікала лёгкі шок у паважанай аўдыторыі, бо мой «юны» ўзрост (крыху за дваццаць) і вышэйшая катэгорыя мала стасаваліся паміж сабой. Але гэта быў толькі пачатак: выкладчык папрасіў прачытаць некалькі нямецкіх сказаў. Я выканала заданне. Так-так, строга захоўваючы англійскія правілы чытання! А праз некаторы час да нас у групу завітаў сапраўдны немец і нам прапанавалі пагаварыць з ім...

Тым не менш, гэтыя курсы далі мне пэўную базу, дзякуючы якой удавалася выконваць свае абавязкі на працягу года. Далей, на маё шчасце, знайшлі сапраўднага выкладчыка нямецкай мовы, а мне далі адпаведную адукацыі нагрузку. Так прамільгнулі некалькі гадоў. Ну, а потым – такая жаночая доля! – замужжа, дэкрэтны адпачынак...

Праз пэўны тэрмін я вярнулася на працу, але ўжо ў іншай якасці. У тэхнікуме ўзнікла патрэба ў выкладчыку інфарматыкі – і «ахвяра» знайшлася. Так мяне адправілі на чарговыя курсы атрымліваць чарговую кваліфікацыю. Дыпломную працу я абараніла за два тыдні да з'яўлення на свет маёй дачушкі. Пазней паспрабавала сябе ў новай якасці – інжынера-праграміста – у нашай роднай школе, дзе працую і сёння.

Цяга да малявання ў мяне, напэўна, ад бацькі. Альбомы з яго малюнкамі захоўваюцца ў нашай сям'і дагэтуль. На жаль, ён загінуў, калі мне было крыху больш за паўгода.

Першае, што памятаю ў сувязі з маляваннем – гэта як я «тэрарызавала» маці просьбамі намаляваць чалавека. Яна доўга адмаўлялася, але нарэшце выканала мой заказ. Больш я яе не чапала: зразумела, што трэба разлічваць







Малюнкі Тамары РАДАВАНАВІЧ.

толькі на сябе. Сярод многіх цудоўных якасцей у маёй матулі мастацкі талент адсутнічаў абсалютна.

У школе на ўроках малявання асаблівых здольнасцей у мяне не выяўлялася. У сярэдніх класах з'явілася ахвота маляваць на лістах ватмана насценныя календары. Падлеткавы ўзрост унёс нейкую нотку «вандалізму» – мне падабалася танюсенькім алоўкам надаваць смешны выраз твару знакамітым вучоным на партрэтах у падручніках. Сам партрэт пры гэтым выглядаў некранутым. Або была яшчэ забаўка – выразаць клоўнскія твары з паперы і раскладваць іх на ілюстрацыях якога-небудзь паважанага сямейства Стогавых за абмеркаваннем праблемы парніковага эфекту ў падручніку англійскай мовы.

Ва ўніверсітэце маляваць трэба было шмат: усе разгледжаныя на лабараторных занятках песцікі, шкілецікі, мікробікі патрабавалася дакладна замаляваць і падпісаць. Здаралася дапамагаць у афармленні лабараторных альбомаў аднакурснікам. Часам – старанна і сумленна, часам – толькі натрэніраванае вока біёлага ратавала маіх сяброў ад здачы выкладчыку нядрэнна намаляванага прэпарата яшчара ў модных чаравіках або рыбы з какетлівым банцікам. Малюнкі мы выконвалі простым алоўкам, таму «аксесуары» лёгка знішчаліся.

Мае сябры ведалі, што ў мяне заўсёды можна пазычыць ручку. Такога дабра была поўная сумка – каб пісаць канспекты, маляваць усялякіх «монстраў» і, канечне, карыкатуры на выкладчыкаў. Гэты «грэх» пацягнуўся за мной і на працу, і на курсы. Эх, як весела было ў незнаёмай групе намаляваць важнага лектара ў забаўным выглядзе і пусціць малюнак па радах, а затым цешыцца з раптоўнага жаночага піску ці басавітага мужчынскага рогату!

Цяпер часцей даводзіцца маляваць на камп'ютары: работа вымагае. Нярэдка трэба аформіць стэнд нейкімі плакацікамі, зрабіць прыгожы пахвальны ліст ці запрашэнне. На жаль, тэрміны зазвычай вельмі сціслыя і даводзіцца не маляваць з нуля, а карыстацца гатовымі праграмнымі сродкамі. Затое па вечарах мы з дачкой бяром які-небудзь сшытак і малюем казкі – пра коцікаў, пра іншапланецян і нават пра гарбузы.

Коцікі, канечне, заслугоўваюць асобнай згадкі. Дома ў нас жывуць двое – паласаты Марцін і рыжы Ашыйнік. Рыжы – прыблуда, ён узнік раптам з бульбы, якую я палола, і адразу ўзбіўся мне на калені. Непрыгожы, даўганосы, хворы, затое з ашыйнікам. Знікаць ён не збіраўся, гаспадар (Марцін) праганяць яго не стаў, і кот застаўся жыць у нас. Ашыйнік ён хутка згубіў, але імя так і засталося. Акрамя ашыйніка, рыжы кот згубіў, адмарозіўшы ўзімку, свае доўгія вушы.

Да вясны ён акрыяў, набраў тлушчыку, папрыгажэў... Гэта заўважыў сусед, прыгажун брытанец (або рускі блакітны, хто іх разбярэ?) кот Сівы Дзіма. Ён стаў гойсаць за маім рыжым і рабіць прапановы, якія больш натуральна было б рабіць кошкам. Рыжы спрабаваў нешта тлумачыць, але безвынікова. Справа скончылася бойкай, і Дзіма паспрабаваў спакусіць Марціна. Праўда, з тым жа вынікам... На шчасце, нарэшце ўзнікла нейкая кошка – і ўся «тройца» пацягнулася за ёй.

Зараз Марцін недзе бадзяецца, а рыжы ляжыць у мяне на каленях. Кот пяшчотна вуркоча і падсоўвае галаву, каб яго пагладзілі. І калі б ён пры гэтым не запускаў у мяне кіпцюры, была б сапраўдная ідылія...




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.



# Як стала вядома...

## Справа прыпынена

На крытычны матэрыял «Добры самарыцянін» («Вожык» № 2 за 2013 год) рэдакцыя атрымала ажно два адказы: з Пухавіцкага раённага выканаўчага камітэта за подпісам першага намесніка старшыні А. Попелыша і з Пухавіцкага раённага аддзела Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь за подпісам следчага А. Сізовай. Праўда, вынік пакуль несуцяшальны: па факце крадзяжу парасят з фермы ААТ «ФК Рудзенск» у вёсцы Жораўка была ўзбуджана крымінальная справа, але праз тры месяцы прыпынена ў сувязі з неўстанаўленнем асобы абвінавачванага. Тым не менш, як запэўніў нас А. Попелыш, Пухавіцкі РАУС праводзіць мерапрыемствы, накіраваныя на ўстанаўленне асобы злачынцы.

## Прыцягнуты да адказнасці

В. а. старшыні Стаўбцоўскага райвыканкама І. Загдай прачытаў сатырычны матэрыял «Двайнікі» на чыгунцы» («Вожык» № 3 за 2013 год) і праінфармаваў, што шасцярым службовым асобам ААТ «Торфабрыкетны завод «Нёман» аб'явілі вымовы і паменшылі памер прэміі на 20 працэнтаў, восем службовых асоб атрымалі заўвагі з памяншэннем прэміі на 10 працэнтаў, а дырэктар завода І. Круглінская прыцягнута да дысцыплінарнага спагнання.

## Узбуджана крымінальная справа

Першы намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама М. Юхімук уважліва вывучыў сатырычны матэрыял «Каля «разбітага карыта» («Вожык» № 4 за 2013 год) і паведаміў, што за выяўленыя парушэнні да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу былі прыцягнуты: дырэктар філіяла «Рыбгас «Сакалова» ААТ «Палессегіправодгас» А. Мелех, галоўны бухгалтар Т. Лаўранюк, галоўны эканаміст С. Сяркова, галоўны рыбавод В. Смірноў, галоўны энергетык В. Кірылюк. Пазней з займаемых пасад звольнены дырэктар рыбгаса, галоўныя бухгалтар і эканаміст. У дачыненні да А. Мелеха распачата крымінальная справа. Пракуратурай Жабінкаўскага раёна пададзена іскавая заява ў суд Бярозаўскага раёна аб спагнанні з А. Мелеха ў кошт пакрыцця шкоды сумы доўгу па знешнегандлёвых аперацыях, што праводзіліся рыбгасам.

У цяперашні час выконваючым абавязкі дырэктара філіяла «Рыбгас «Сакалова» прызначаны Д. Петравец. Заработная плата выдаецца своечасова, бухгалтарская і статыстычная справаздачнасць узяты пад асаблівы кантроль.

## Сітуацыя выпраўлена

Крытычны матэрыял «Холадна–горача» («Вожык» № 5 за 2013 год) вывучыў намеснік старшыні Мінскага райвыканкама І. Галавач і пагадзіўся з напісаным. Таксама праінфармаваў, што лінія па пасляўборачнай дапрацоўцы і перадрэалізацыйнай падрыхтоўцы бульбы змешчана пад навес. Цэмент, набыты за кошт бюджэтных сродкаў для рэканструкцыі малочнатаварнай фермы «Каралішчавічы» ААТ «Аграфірма «Рассвет», адсарціраваны, перавезены ў сухое памяшканне, а пазней выкарыстаны па прызначэнні. Упраўленнем сельскай гаспадаркі і харчавання Мінскага райвыканкама старшыні назіральнага савета ААТ «Аграфірма «Рассвет» накіравана хадайніцтва аб прыцягненні да дысцыплінарнай адказнасці дырэктара таварыства М. Шахновіча.

## Падаткі даплачаны

Намеснік старшыні Мазырскага райвыканкама В. Назаранка прачытаў сатырычны матэрыял «То соладка, то горка...» («Вожык» № 5 за 2013 год) і паведаміў, што па выніках праверкі прыватнае вытворча-гандлёвае ўнітарнае прадпрыемства «АТТАНА» даплаціла ў бюджэт падаткаў і пені ў агульнай суме 135372812 беларускіх рублёў. Дырэктар фірмы Л. Юцэвіч папярэджаны пра недапушчальнасць парушэнняў пры ажыццяўленні гаспадарчай дзейнасці.






Малюнак Пятра КОЗІЧА.

# Гумарыст, які ўмеў слухаць...



*Вядомы беларускі празаік Іван Іванавіч ГРАМОВІЧ (1918–1986) шчыра і самаахвярна працаваў на пасадзе намесніка галоўнага рэдактара ў часопісе «Вожык» пяць гадоў – з 1970 па 1975 год. А да гэтага скончыў Мінскі педінстытут, служыў у Савецкай Арміі, шчыраваў на пасадзе адказнага сакратара ў часопісах «Беларусь» і «Маладосць», працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм», літкансультантам СП БССР. Выдаў кнігі апавяданняў, аповесцей, нарысаў, зборнікі для дзяцей. І ніколі не забываўся пра гумар.*

*Гумар І. Грамовіча меў характар падслуханай размовы. Можа, таму, што і вушы ў творцы былі незвычайныя: умелі слухаць і заўважаць у нашым жыцці ўсё тое, што вартае смеху. Мог і вусна данесці да слухача сваё гумарыстычнае слова, аздабляючы яго добрым артыстычным жэстам, усмешкай ды інтанацыяй. Выдаў зборнікі гумару «Нарасць» (1961), «Вадалей – Гэтакдалей» (1975), «Залатая бранзалетка» (1977).*

*Адзначаючы 95-годдзе з дня нараджэння Івана Іванавіча Грамовіча, згадаем і некаторыя яго гумарыстычныя творы.*

**Іван ГРАМОВІЧ**

## ДАРОСЛЫЯ І МАЛЫЯ

*Мініяцюры*

### АПЛАЧАНА

Гасцініца ў райцэнтры на рамонце. Дзе пераначаваць камандзіровачнаму? Параілі яму звярнуцца да гаспадыні, што жыве непадалёку ад раймага. Кажуць: бабулька адзінокая, вельмі акуратная і культурная.

І праўда. У хаце чысценька, прыбрана. Радыёрупар гаворыць. Гаворыць, іграе ўсё ранне. Цэлы дзень. І ўвесь вечар.

Пастаяльцу захацелася адпачыць у сціхаце.

– Дзе, – пытаецца ён у гаспадыні, – выключальнік? І чаму радыё ўвесь час гаворыць, не выключаецца?

– Дык яно, мілы чалавек, у мяне аплачана.

### КОНЬ-СВАВОЛЬНІК

Настала глыбокая, ціхая восень. Даўно апала з дрэваў лісце. Мароз укаваў зямлю. Холадна. Можа, заўтра ці паслязаўтра выпадзе снег.

Але я, Пеця і Люба – усе ходзім гуляць у парк. Толькі цяпер у нас цёплыя паліто, вязаныя рукавічкі і зімовыя шапкі-вушанкі на галаве.

Ля ўваходу ў парк стаіць прывязаны конь, запрэжаны ў павозку. Гаспадара паблізу няма. На калёсах фанерны стэнд, драўляны грыб, пад якім, бывала, хаваліся мы ад дажджу, гушкала-качалка, – усё, што нам адслужыла за летнюю пару.

Конь стаіць, нібыта задуменны, а з ноздраў у яго – пара белымі клубамі.

Люба наблізілася, паглядзела на гэтыя клубкі з конскіх ноздраў і строга сказала:

– Курыць няможна. Шкодна для здароўя... А чаму ён курыць?

### ВАЗЬМІ СЯБЕ Ў РУКІ!



У Сашы забалеў зуб. Пайшлі да доктара.

Машына, якой урач свідравала хворы зуб, рабіла Сашу нямала болю. Часам здавалася, што галава яго расколецца ад гэтай іголкі-свердла. Нарэшце Саша не вытрымаў, заплакаў.

– Ты, Саша, мужчына, ці не? – з дакорам сказала маці. – Вазьмі сябе ў рукі!

Саша як сядзеў на крэсле перад доктаркай у белым халаце, так абедвума рукамі і абхапіў сябе.

### ЗНАЁМСТВА



Еду ў Мінск прыгарадным цягніком. Набліжаемся да горада. Бачу: у вагон зайшла пасажырка з пасажырам, якому яшчэ не бяруць білет.

У вагоне гарачыня. Як развязала яму хустку маці, я пабачыў завіткі валасоў, бялюткіх, як лён. Красуня! Шчокі гараць, ірдзеюць ружамі. Васільковы позірк да ўсіх шчыры, адкрыты.

Ну, хіба тут не пазнаёмішся?!

– Хадзі да мяне! – кажу я.

Падыходзіць.

– Як цябе завуць? Святлана? Валаскі ў цябе светлыя. Праўда? Можа, Алёнка?.. Волечка. Юлечка. Клава. Таіса?..

Вочкі адразу – да долу. Юная асоба яўна выказвае сарамлівасць. Маўчыць.

– То як жа? – пытаюся. – Вера, Каця, Ганнуся. Данута?.. Не?..

Перабраў шмат імён. Колькі ведаў. Знаёмства не клеіцца. Пасажырка ўстала з майго калена і пайшла да мамы.

Тая смяецца:

– Чаму з дзядзькам не размаўляеш? Дзядзька не благі, добры. Жартуе.

– Ну, чаго ж ты маўчыш? – ледзь не з крыўдай звяртаюся да няветлівай асобы. – Не прызнаешся, як цябе дома клічуць?.. Скажы.

І пачуў панікліы, сканфужаны голас:

– Кас-тан-цін!

*«Вадалей – Гэтакдалей», Мн., 1975 г.*



# Інтэрнэт: жартуе



## КАЖУЦЬ, ШТО...

Дрэсіраванага мядзведзя, які ўцёк з цырка і ўмеў ездзіць на матацыкле, але не ўмеў запраўляцца, злавілі каля АЗС на выездзе з горада.

* * *

Нішто так не прымушае бегчы на любімую працу, як моцны мароз.

* * *

Муж вярнуўся з камандзіроўкі на дзень раней і быў звольнены проста ва ўласнай спальні.

* * *

У дзяўчыны на заднім шкле аўтамашыны: «Не гудзіце, калі ласка, і так страшна!»




Гутарка з бацькам нявесты:

– Скажыце, чаму вы не дазваляеце мне ажаніцца з вашай дачкой? Я ж не п'ю, не куру, не лаюся матам, не гуляю ў азартныя гульні...

– Я не хачу, каб мне кожны раз прыводзілі цябе ў прыклад.



Сапраўдны адпачынак – гэта калі ты купляеш шорты і панамку, а не новыя шпалеры і ламінат.














* * *

Заходжу неяк у боўлінг, а там хоць шаром пакаці!

* * *

Жанчыны паміраюць пазней за мужчын, бо вечна спазняюцца.

* * *

Кажуць, што на гала-канцэрт Lady Gaga ў Кітаі з цяжкасцю назбіралася 245 мільёнаў гледачоў.

* * *

Патрабуецца рознарабочы на мэблева-каўбасна-металургічны завод.

*(Аб'ява.)*





## Анекдоты

– Вой, глядзі, зорка падае! Загадай жаданне!
– Я жадаю, каб ты са мной ажаніўся.
– Глядзі, назад паляцела!



– Тата, ну чаму ты думаеш, што калі я была на дні нараджэнні ў сяброўкі, то адразу піла?
– Я мама.



Спыніў неяк на дарозе супрацоўнік ДАІ супрацоўніка ДАІ – тут, як кажуць, ні даць ні ўзяць...

*Фотаздымкі і тэкст узяты з сеткі інтэрнэт.*







Малюнак Андрэя СЛУЦКАГА.







Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Алега ПАПОВА.




## СТАРАСЦЬ

Старэю, браце мой, старэю...
Стаміўся піць зашмат гарэлкі
І тварам падаць у талеркі,
Хаця я гэта ўсё і ўмею.

Старэю, браце мой, старэю...
Не вельмі цягне да дзяўчат,
Але яшчэ бываю рад,
Калі якая дасць надзею...

Старэю, браце мой, старэю...
Не ў рэстаран іду часцей,
А ў лазню – там мне весялей:
І адпачну, і папацею.

Старэю, браце мой, старэю...
Вось грошы раптам палюбіў,
А як без іх калісьці жыў,
Цяпер ніяк не разумею.

Старэю, браце мой, старэю...
Ды не хавайце да пары.
Цярпенне майце, спадары –
Здзяцінею й памаладзею!

**Віктар ВАРАНЕЦ,**
*г. Гродна.*






Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Міхася ШУЛЬГІ.

## НА КУРОРЦЕ

Санаторый, нібы вулей, –
Танцы пачаліся.
Шпарка, весела дзядулі
Ў скокі падаліся.

Вунь адзін з дзяўчынай танчыць,
Аж трасе падлогу.
На паўметра ўгору скача
Лепш за маладога.

Побач кветачкі-жанчыны
Сцены падпіраюць.
Дзе падзеліся мужчыны?
Ці вачэй не маюць?

Ёсць мо трое. Ды без меры
Ўсе гарэлку хлебчуць,
А дзядулі-кавалеры
Душу й цела лечаць.

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Міхася ШУЛЬГІ.

**Віктар ЛОЎГАЧ**




Каторую гадзіну сусед Яўхім спрачаецца з суседам Янкам. Абодва зрабіліся чырвонымі, як вараныя ракі.

– Я табе ў соты раз кажу, – даводзіць Яўхім, – што мой улоў з трох печкуроў даражэйшы, чым твой кілаграмовы шчупак!

– Быць таго не можа! – ледзь не з кулакамі кідаецца на Яўхіма Янка. – У мяне шчупак дык шчупак, а ў цябе рыбкі – з мезенны палец!

– Ты сваім шчупаком не хваліся, – адмахваецца Яўхім. – Пячкур ёсць пячкур. Не рыба, а золата!

– Ды ты быка параўноўваеш з індыком! – аж кіпіць Янка.

– І бык – добра, і індык – таксама, – стаіць на сваім Яўхім.

І тут на ганак выходзіць Вера, жонка Яўхіма. Эканаміст, з вышэйшай адукацыяй.

– Янка, ты як на рыбалку ішоў, колькі бутэлек віна браў? – пытаецца яна і хітра жмурыць вока.

– Ну, адну, – чмыхае Янка.

– А мой Яўхім – тры. Вось і палічы, калі арыфметыку са школы не забыўся, у колькі яму абыходзіцца рыбалка?

Пасля такога аргумента Янка схіліў галаву набок, чмыхнуў і пагадзіўся:

– Але, Яўхімка, твая праўда: тры бутэлькі, канечне, больш за адну. Твой улоў даражэйшы...

*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*

# Навіны з МУС: матай на вус...

## Недапланаваў

***Магілёў.*** Калі пачынаеш нейкую справу, зусім нядрэнна мець які-небудзь план дзеянняў. Зразумела, што ў ідэале ў ім трэба прадугледзець усе нюансы, якія могуць узнікнуць на шляху да дасягнення мэты.

Так, 22-гадовы магіляўчанін (які, між іншым, ужо не адзін раз пабываў за кратамі) доўга прадумваў план крадзяжу. Час выбраў вячэрні, калі на бульвары Непакораных нешматлюдна, а ахвярай – маладую дзяўчыну. Злодзей адабраў у яе залатыя ўпрыгожванні, грошы, мабільны тэлефон. А на выпадак, калі перасохне ў горле, выхапіў з рук дзяўчыны яшчэ і пачак соку.

Магіляўчанін, здаецца, прадумаў усё. Толькі не ўлічыў аператыўнасць міліцыянераў, якія хутка затрымалі злодзея. Зараз яму пагражае да дзесяці гадоў зняволення. Дастатковы тэрмін, каб разабрацца, што ён недапланаваў.

## На чужы мядок...

***Нясвіжскі раён.*** Нейкі невядомы прыкмеціў у вёсцы Жаволкі вулей з пчоламі. І так яму захацелася пакаштаваць на зуб мядочку, што не знайшоў ніякага іншага выйсця, як украсці гэтую «салодкую хатку». Тым самым ліхадзей нанёс урон гаспадару на суму больш як два мільёны рублёў.

Спадзяёмся, што злодзея хутка адшукаюць, бо нельга разяўляць раток на чужы мядок.

## Сябар ці вораг?

***Асіповічы.*** Часам цяжка здагадацца, хто ў тваім найбліжэйшым акружэнні сябар, а хто – вораг. Мясцоваму жыхару давялося адчуць гэта на ўласнай скуры, бо падчас гульні ў ігравыя аўтаматы ў яго з курткі зніклі два з паловай мільёны рублёў. Калі міліцыянеры прагледзелі камеры назірання, то высветлілі, што грошы сцягнуў... прыяцель пацярпелага.

Дакладна невядома, што ім кіравала ў гэты момант: можа, звычайная сквапнасць ці зайздрасць, а магчыма, сябра хацеў зберагчы капітал жыхара Асіповіч? Праўда высветліцца падчас следства.

## 2, 5 тоны – гэта...

***Лідскі раён.*** Дастаткова часта фінансавыя міліцыянеры затрымліваюць тавары без неабходных сертыфікатаў, акцызных марак, іншых дакументаў. Нядаўна яны спынілі «фуру» з бутэлькамі нелегальнай расійскай гарэлкі. І самі таго не ведаючы, затрымалі адну з самых буйных партый з пачатку года па рэспубліцы: было канфіскавана больш як 2,5 тоны «вогненнай вады».

Для прыкладу, гэтай колькасцю гарэлкі можна запоўніць адзін невялікі басейн ці 13 ванна. Калі ж пусціць яе замест крыві па сасудах, то хопіць для больш як 500 чалавек ці 12500 катоў.

Але пакуль вядзецца следства, гарэлка будзе выконваць ролю звычайнага доказу.

***По матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***

**Віктар КУНЦЭВІЧ**




Як венік у парылку,
Нясе мужчынка ружы –
Ад смеху дождж узбрыкнуў
І заскакаў па лужах.
З-пад кольцаў парасонаў
Насмешліва кабеты
Глядзяць...
Адчуў персонай
Сябе мужчынка гэты.
Узняў нос ганарліва:
«Няхай, няхай зайздросцяць
Няшчасныя шчаслівай
Маёй нявесце Зосі!»

*г. Магілёў.*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.




## Прыём на працу

– А чаму вас адусюль звальнялі?

– А вы вазьміце мяне на працу, тады і даведаецеся.



## Калі б я быў царом…

Размаўляюць два яўрэі:

– Вось ты працуеш краўцом ужо трыццаць гадоў. А што б ты рабіў, калі б раптам стаў царом?

– Гм… Калі б я стаў царом, я жыў бы лепш, чым цар! Бо я яшчэ і шыў бы!

## Змагацца з паўнатою

– Калі мне не паесці смачна і многа, то дзе ўзяць сілы, каб змагацца з гэтай паўнатою?

**Даслаў Аляксандр ЛОГА,**
*г. Маладзечна.*

## Кампенсацыя

– Мяне пакусаў твой сабака,– скардзіцца Пеця суседцы Марыне. – Я патрабую кампенсацыі!

– Калі ласка. Я патрымаю сабаку, а ты яго таксама пакусай.



## Супакоіў

Маці:

– Можа, ты думаеш, сынок, што бацькі да пенсіі цябе карміць будуць?

Сын:

– А колькі тут ужо засталося?

## Навучыў

Каваль тлумачыць свайму вучню, як трэба каваць падкову:

– Спачатку пакладзі яе ў агонь, каб да чырвані нагрэлася, потым – на кавадла і, як толькі я кіўну галавой, бі па ёй молатам.

Вучань вельмі ўважліва выслухаў майстра і зрабіў, як той загадаў… Пасля гэтага каваль праляжаў цэлы месяц у бальніцы, а потым яшчэ доўга хадзіў з перавязанай галавой.



**Даслаў Мікалай ГЛЕБ,**
*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*

## Мімаходзь

Слова – не верабей, але ж і яно бывае крылатае.

Падхалім перад калегамі быў ні рыба ні мяса, а перад начальствам заліваўся салаўём.

Нельга чакаць літасці ад прыроды пасля здзекаў з яе.

Парадокс жыцця: конь бяжыць – яго падганяюць, свіння ляжыць – яе не чапаюць.

«Ты храпеш, як леў, варочаешся ў ложку, як мядзведзь, ходзіш, як слон! – дакарае жонка мужа. – А ўсё астатняе робіш, як сонная муха…»

**Даслаў Віктар САЛАНЕЦ,**
*г. Любань.*






**Павел САКОВІЧ**

### Стрэс-код

Для нас прыдумалі адзенне.
Не форма – нейкае мучэнне!
Нам кажуць, што такі дрэс-код,
Ды вырашыў вучнёўскі сход:
Не форма гэта, а стрэс-код.

### Складаная загадка

Загадала ўнучка Натка
Мне няпростую загадку:
– Яго б'еш, а ён не плача,
Толькі скача, скача, скача...
Адказаў я ўнучцы:
– Конь!
А яна мне:
– Мячык ён!
Ну, а коней нельга біць,
Трэба іх заўжды любіць!

### «Бульбяная» спрэчка

«Бульбу ў мундзірах,
сынок, спажывай.
Там вітамінаў –
ажно цераз край!»
Як ні ўгаворвае
маці, штораз
Чуе ад сына
такое ў адказ:
– Бульба адзетая
не для мяне.
Голая ёсць
у тваім чыгуне?

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

### КАЛАМБУРЫ

Пакуль не спякотнае
Сонца над полем,
Мы дружна капусту
З сяброўкамі полем.

* * *

У падарожжы па рацэ,
Каб непрыемнасцяў не мелі,
Плыць не спяшайцеся хутчэй
І абмінайце мелі.

* * *

Летам многа малачаю,
Малачай жуе бычок.
Летам п'ю я мала чаю,
Піць люблю я летам сок.

* * *

Канюшыне каля плоту
Вельмі горача ў спякоту.
Канюшыну пакашу,
Дам цялушкам па кашу.

* * *

Выхваляліся трытоны:
– Мы па дну ракі паўзём,
На сабе вады тры тоны
Нават хоць бы што нясём.

**Наталля СЦЕПУСЬ**

### Рамонкі

Цягнуцца да сонца
Кветачкі малыя –
Белыя пялёсткі,
Вочкі залатыя.
Тонкія сцяблінкі
Ветрык абдымае,
Я букецік кветак
Маме назбіраю.

*г. Брэст.*






Малюнак Алега ПАПОВА.













Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

# ГАЛАВАЛОМКА




Калі вы правільна ўпішаце словы па гарызанталі, то ў выдзеленых клетках па вертыкалі зможаце прачытаць слова, якое абазначае лічынку матыля.

**1.** «Бяжыць ... – // Тупу-туп! // Сам калючы, // Востры зуб» (з верша А. Лойкі «Вожык»).

**2.** «З птушак ён – // Бягун адзіны, // ... – // Добры паштальён» (з верша А. Дзеружынскага «Страус паштальён»).

**3.** «Брудным быць не хоча коцік: // Мые спінку і жывоцік, // Мые лапкі, ... мые // Вучаць коціка малыя» (з верша В. Гардзея «Коцік»).

**4.** «А тых птушак і не злічыш: // Качкі, кнігаўкі, драчы, // І сам ...-паляўнічы // Вас у госці тут закліча» (з вершаванай казкі Я. Коласа «Рак-вусач»).

**5.** «На змярканні – шум, гам, звон. // Гэта звоняць дуб, граб, ...» (з верша М. Танка «На камарыным вяселлі»).

**6.** «Па надворку ... ходзіць, // За сабою куры водзіць» (з верша Я. Коласа «Храбры певень»).

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*



**Адгадкі:**
1. Вожык. 2. Страус. 3. Хвосцік. 4. Бусел. 5. Клён. 6. Певень.




# Аляксандр ЦІХАНАЎ:

## *«Люблю маляванне, грыбы і караблі!..»*

*Нарадзіўся 23 чэрвеня 1960 года ў горадзе Маладзечна Мінскай вобласці. Як і ўсе дзеці, «адгуляў» дзяцінства, адвучыўся ў школе... А потым 33 гады адслужыў ва Узброеных Сілах. Ветэран баявых дзеянняў у Афганістане (1985 – 1987 гг.).*

*Маляваць Саша пачаў яшчэ са школы, прымаў актыўны ўдзел у афармленні сценгазет. На карыкатуры і коміксы натхнілі кнігі з мнагакадравымі карыкатурнымі гісторыямі дацкага графіка-карыкатурыста Херлуфа Бідструпа. Разам з сябрамі яны хадзілі ў чытальную залу гарадской бібліятэкі, дзе працавала сястра Аляксандра, каб удосталь наглядзецца і насмяяцца з работ выдатнага майстра. Пазней падчас вучобы ў акадэміі курсант маляваў партрэты сваіх аднакурснікаў і выкладчыкаў.*

*У вольны час Аляксандр Іванавіч любіць пісаць карціны алеем. У асноўным гэта копіі вядомых работ: «Адліга» Фёдара Васільева, «Зарослая сажалка» Васіля Паленава... Пасля цяжкасцей службы заўсёды цягне на спакой, таму цяпер А. Ціханаў шмат адпачывае: малюе, рыбачыць, ходзіць у грыбы. Калі здараецца «рамантычны настрой» – збірае мадэлі караблёў, а калі хочацца весялосці – праглядвае старыя савецкія фільмы, асабліва камедыі. Ну, і, вядома, чытае «Вожык»!*





– Мы тут таксама нацяпаліся!







☺ ☺ ☺

– А давайце кінем піць!
– Выдатны тост!



☺ ☺ ☺

– Алё, гэта сэкс па тэлефоне?
– Не, гэта падатковая, але мы таксама ўмеем!



☺ ☺ ☺

Вырашыў прыгатаваць мяса ў віне, але пасля другой пляшкі забыў, што раблю на кухні.

**Анекдоты ў нумар даслаў**
**Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*



Вожык на сцэне

Генадзь АЎЛАСЕНКА

# Што пасееш...

*Сцэнка*

**Дзеючыя асобы:**

**Доктар.**
**Медсястра.**
**Пацыент, ён жа аўтамеханік.**
**Рабочы.**

## Частка першая.

Кабінет доктара. Доктар сядзіць за сталом, медсястра стаіць побач. У кабінет нясмела ўваходзіць пацыент.

Доктар. Што ў вас?

Пацыент. Ды я, гэта...

Доктар *(устае, падыходзіць да пацыента)*. Адкрыйце рот. *(Пацыент паслухмяна адкрывае рот, доктар уважліва ў яго глядзіць.)* Ну, што ж, усё зразумела. Мне ўсё зразумела! У вас апендыцыт!

Пацыент. Апендыцыт?!

Доктар. І прытым, востры! *(Да медсястры.)* Сястра! Адвядзіце хворага ў восьмую палату, падрыхтуйце да аперацыі.

Сястра *(хапае пацыента за руку)*. Ідземце, хворы!

Пацыент *(вызваляючы руку)*. Не разумею, як у мяне можа быць апендыцыт, калі яго ўжо выразалі?!

Доктар *(расчаравана)*. Выразалі?! І калі?

Пацыент. Ды гадоў з дзесяць ужо...

Доктар. Ну, што за людзі! Нейкіх дзесяць гадоў пачакаць не мог! *(Змаўкае, строга глядзіць на пацыента, той вінавата апускае галаву.)* Калі ў вас няма апендыцыту, навошта вы мне тут галаву тлуміце?!

Пацыент. Дык я ж, гэта...

Доктар *(перапыняе яго)*. Адкрыйце рот. *(Пацыент раскрывае рот, доктар зноў туды зазірае.)* Так, усё зразумела! У вас язва!

Пацыент *(з жахам)*. Язва?!

Доктар. І прытым, прабадная! У страўніку ці ў кішэчніку, не разгледзеў добра... Але тое, што язва – гэта без усялякага сумнення!

Пацыент *(нясмела)*. А што, праз рот яе можна ўбачыць? Я чуў, што для выяўлення язвы аналізы трэба нейкія здаваць... потым вынікаў чакаць...

Доктар *(махае рукой)*. Гэта састарэлая методыка! Сястра! Адвядзіце хворага ў сёмую палату.

Медсястра зноў хапае пацыента за руку, і зноў ён вырываецца.

Пацыент. Ды куды вы мяне ўвесь час цягнеце?!

Медсястра. Як гэта, куды? На аперацыю. Язву вашу выдаляць будзем!

Пацыент. Ды няма ў мяне ніякай язвы! У мяне і жывот ніколі ў жыцці не балеў... ну, не лічачы таго апендыцыту.

Медсястра *(з абурэннем)*. Ну, і чаго ж вы тады прыпёрліся сюды, час наш каштоўны адымаеце?!

Пацыент. Дык я ж хачу растлумачыць, што ў мяне...

Доктар. Адкрыйце рот. *(Пацыент змаўкае, адкрывае рот, доктар зноў уважліва ў яго глядзіць.)* Ну, што ж, віншую вас, даражэнькі!

Пацыент. З чым?

Доктар. Лёгкія ў вас не ў парадку. Сухоты!

Пацыент *(з сарказмам)*. Вы што, і лёгкія мае праз рот убачылі?!

Доктар. А вы што думалі? Для сапраўднага прафесіянала хіба гэта праблема! *(Да медсястры.)* Сястра!



Пацыент *(да медсястры)*. Не набліжайцеся да мяне! *(Доктару.)* Няма ў мяне ніякіх сухотаў. Няма, разумееце?!

Доктар. Ды вы супакойцеся, супакойцеся. Паверце мне, як спецыялісту.

Пацыент *(амаль крычыць)*. І рэўматызму ў мяне таксама няма! І радыкуліту я не маю! *(Адкрывае рот, паказвае ў яго пальцам.)* Вось, бачыце?! Няма радыкуліту!

Доктар. Дык на што вы тады скардзіцеся, не разумею?!

Пацыент. На вас! І на такіх, як вы!

Ён выходзіць з кабінета і гучна грукае дзвярыма.

Медсястра. І чаму ён так уздыбіўся?! Шызафрэнік нейкі!

Доктар *(радасна)*. Так і ёсць! Шызафрэнік! Я, калі ў рот ягоны глядзеў, выразна бачыў там усе прыкметы шызафрэніі!

Медсястра *(з захапленнем)*. Доктар, вы – геній! Не разумею толькі, чаму вас начальства так мала цэніць? Вымовы дае, звольніць пагражае!

Доктар. Зайздрасць! Звычайная зайздрасць, сястра. Зайздрасць пасрэднасцяў да генія!

Ён уздыхае. Медсястра таксама ўздыхае спачувальна.

Канец першай часткі.

Працяг на стар. 22.

Працяг. Пачатак на стар. 21.



## Частка другая.

Аўтамайстэрня. За сталом сядзіць аўтамеханік, ён жа былы пацыент. Побач з ім стаіць рабочы. Убягае доктар.

Доктар. Як добра, што я вас заспеў! Разумееце, мой аўтамабіль...

Механік *(ускоквае з месца)*. Гэта вы?

Доктар. Мы што, знаёмы?

Механік. Ды даводзілася сустракацца...

Доктар. Не памятаю! Дык вось, мой аўтамабіль...

Механік *(перапыняе яго)*. Адкрыйце рот!

Доктар. Навошта?

Механік. Трэба. Адкрыйце. *(Доктар паслухмяна адкрывае рот, механік нейкі час у яго глядзіць.)* Так, зразумела. Мне ўсё зразумела. У вашага аўтамабіля заклініла рухавік! *(Рабочаму.)* Ідзі, здымай рухавік!

Доктар *(рабочаму)*. Стой! *(Механіку.)* Ён не можа заклініць, ён нядаўна з капрамонту.

Механік. А дакладней?

Доктар. І двух месяцаў не будзе!

Механік. Што за людзі! Нейкія два месяцы пачакаць не мог! *(З дакорам глядзіць на доктара, той вінавата апускае галаву.)* Калі ваш рухавік у парадку, дык што ж вы тады мне галаву тлуміце, мой каштоўны час адымаеце?!

Доктар *(разгублена)*. Дык я ж, гэта... мой аўтамабіль, ён...

Механік. Адкрыйце рот.

Доктар. Ды навошта?!

Механік. Трэба. *(Зноў уважліва глядзіць у рот доктару.)* Ну што ж, мне ўсё зразумела. Праводка ў вас нікуды не вартая! І акумулятар падцякае! *(Рабочаму.)* Ідзі, здымай праводку. І акумулятар таксама.

Рабочы ідзе да выхаду.

Доктар *(нервова)*. Стой! *(Рабочы вяртаецца.)* Нічога не трэба здымаць! *(Механіку.)* А вам не здаецца, што перш чым ставіць дыягназ, не пашкодзіла б хоць адным вокам паглядзець на сам аўтамабіль?!

Механік. Навошта?

Доктар. Ну, я не спецыяліст... але ж усе, здаецца, так робяць!

Механік. Гэта састарэлая методыка! Я, праўда, раней па ёй працаваў, але зараз перайшоў на іншую, больш сучасную.

Доктар *(з'едліва)*. І адкуль жа вы яе ўзялі, гэтую сваю сучасную методыку?

Механік *(не менш з'едліва)*. А вы што, не ведаеце?

Доктар. Адкуль жа мне ведаць?

Механік. І нават не здагадваецеся?

Доктар. І нават не здагадваюся!

Механік *(уздыхае)*. Ды ў вашага аўтамабіля, да ўсяго іншага, яшчэ і склероз! А гэта ўжо невылечна, паверце мне, як спецыялісту...

Канец.



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.







Малюнкі Алега ПАПОВА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.



— Я, Пятніца, вельмі засумаваў па зімовай рыбалцы...

Малюнак Аляксандра БУЛАЯ.

**Яўген ХВАЛЕЙ**

## РАЗУМНЫ ЗАМОК

*(Праўдзівая гісторыя, расказаная суседам)*



– Купіў для хаты я замок,
Прыладзіў – і праверыў:
Замкнуў знутры сябе знарок –
Ці вылезу праз дзверы?

І што вы думаеце? Не,
Праз дзверы я не вылез:
Сяджу, гукаю у акне
Ці, як сабака, выю...

І раптам – быццам салаўя,
З двара жаночы пошчак:
– Што стала з вамі?
Можа, я
Дапамагу хоць трошкі?

– Не вылезу, замок заеў –
Хоць плач ты тут ці войкай...
– Праз фортку кіньце ключ вы мне,
З другога ўстаўлю боку...

Ключ, як маланка, паляцеў –
Замок мой шчоўкнуў гучна.
Бы птах той з клеткі, неўспадзеў
На волю я адпушчаны...

І тут яна – амаль уся
Аж свеціцца ад шчасця...
Засмажылі мы з ёй гуся,
Кульнулі і па чарцы.

А скуль жанчына, хто яна? –
Гадай не надта думна.
Жывём мы з ёю год паўста,
І не замка таго віна,
Замок той быў разумны.